*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 27 (79) 5 ліпеня 2023 г.**

# Беларусь адзначыла Дзень незалежнасці

У Беларусі 3 ліпеня адзначаецца Дзень незалежнасці (Дзень рэспублікі) - галоўнае свята беларускай дзяржаўнасці.



Рашэнне аб святкаванні Дня незалежнасці менавіта 3 ліпеня прынялі ў 1996 годзе па выніках рэферэндума, калі было вырашана, што свята будзе прыпадаць на дзень вызвалення Менска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1992-1996 гадах Дзень незалежнасці ў Беларусі афіцыйна адзначаўся 27 ліпеня - па даце прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў 1990 годзе. Беларусь - адзіная постсавецкая краіна, якая ў даце святкавання асацыявала сваю незалежнасць з падзеямі апошняй вайны.

Дзень Расіі, напрыклад, адзначаецца 12 чэрвеня - у дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце ў 1990 годзе.

Дзень незалежнасці Украіны адзначаецца 24 жніўня, у гонар прыняцця Вярхоўным Саветам УССР Акта абвяшчэння незалежнасці Украіны.

У Казахстане, Таджыкістане, Кыргызстане, Арменіі - нашых саюзнікаў па ЕАЭС - свята незалежнасці таксама звязана менавіта з выхадам са складу Савецкага Саюза.

Цэнтральныя мерапрыемствы па святкаванні Дня незалежнасці распачаліся сёлета каля Кургана Славы.

*(Працяг на ст. 2.)*

# Пілігрымка да Маці Божай Будслаўскай

На працягу ўсяго дня 30 чэрвеня ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай прыбывалі пілігрымы, якія дабіраліся на традыцыйны фэст пешкі і на роварах.

Сёлетнія ўрачыстасці былі юбілейнымі: 25 гадоў таму кардынал Казімір Свёнтак па распараджэнні Папы святога Яна Паўла II каранаваў цудадзейны будслаўскі абраз Багародзіцы з Дзіцяткам Езусам на руках.

Традыцыя пілігрымавання мае багатую шматвяковую гісторыю і працягваецца ў нашыя дні.




У 2020 і 2021 годзе арганізаваных пілігрымак не праводзілася ў сувязі з пандэміяй каранавіруса, але і тады людзі ў прыватным парадку ішлі пешкі і ехалі на роварах да Маці Божай.

Сёлета пробашч Будслаўскай парафіі ксёндз Дзмітрый Дубовік прывітаў у нацыянальным санктуарыі 16 пешых пілігрымак: дзевяць з Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі, шэсць з Віцебскай, дзве з Гарадзенскай і адну з Пінскай дыяцэзіі, а таксама дзве пілігрымкі на роварах: з Віцебска і з Менска.

Разам з пробашчам пілігрымкі пры ўваходзе ў базыліку сустракаў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі.

Усяго пешкі і на роварах на фэст у Будслаў сёлета прыбылі 1862 пілігрымы.

*(Заканчэнне на ст. 4.)*





# Беларусь адзначыла Дзень незалежнасці

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Каля Кургана разгарнулася сапраўднае патрыятычнае свята. Тут можна ўспомніць старонкі гісторыі Беларусі, паспытаць свае сілы ў спартыўных мерапрыемствах, пакаштаваць разнастайныя пачастункі і набыць сувеніры з нацыянальным каларытам. Арганізавана таксама выстаўка сучаснага ўзбраення і ваеннай тэхнікі.



Выступаючы каля Кургана Славы Прэзідэнт Беларусі ў прыватнасці сказаў:

*“Паважаныя суайчыннікі, госці нашай Беларусі!*

*Сёння наша краіна адзначае галоўнае дзяржаўнае свята - Дзень незалежнасці.*

*Мы сустракаем яго ля падножжа велічнага помніка. Помніка, пабудаванага ў гонар герояў, якія вызвалілі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*Курган Славы - святое месца. Тут грымелі бязлітасныя баі, тысячы салдат і афіцэраў аддавалі свае жыцці, каб жылі мы. Тут крывёй змацаваліся братэрскія повязі вялікай шматнацыянальнай краіны.*

*Байцы не дзялілі сябе на беларусаў і рускіх, украінцаў і казахаў, армян і грузін, таджыкаў і кіргізаў, азербайджанцаў, узбекаў і іншых. Не дзялілі зямлю на сваю і чужую. Яны змагаліся за нашу адну Айчыну.*

*Мы стаім на месцы, дзе замкнуўся "Мінскі кацёл". Наступальную аперацыю "Баграціён" па праву называюць трыумфам савецкага ваеннага майстэрства. Гэта бітва ўвайшла ў гісторыю як буйнейшае паражэнне фашысцкіх войскаў у Другой сусветнай вайне.*

*Амаль 400 тысяч салдат, афіцэраў, генералаў вермахта і СС былі знішчаны і ўзяты ў палон. Іх паказалі ўсяму свету. Правялі ганебным маршам па Краснай плошчы, адразу змываючы сляды нямецкіх ботаў вадой.*

*Новаяўленым нацыстам не шкодзіла б перагледзець гэтыя кадры кінахронікі. Яны хочуць забыць, але мы з вамі не павінны гэта дазволіць. Гэта ніхто не павінен забыць. Не павінны забыць, каб не паўтарылася зноў.*

*Беларусь шануе і памятае подзвіг савецкага народа.*

*Сёння ўсе нашы мемарыялы ў кветках. У кожным кутку Беларусі. Самы маленькі помнічак, народны помнік, магілка савецкіх воінаў у кветках.*

*Прыходзячы да іх, да гэтых магіл і помнікаў, схіляем галаву перад сваімі суайчыннікамі. Дзякуем воінам братэрскіх рэспублік. Тысячы знайшлі апошні прытулак на нашай зямлі. Імёны многіх носяць вуліцы нашых гарадоў, яны будуць жыць у сэрцы ўсяго беларускага народа. Вечна будуць жыць.*

*Нізкі паклон і вечная памяць пераможцам!*

*Давайце ўшануем хвілінай маўчання загінулых герояў і па-зверску забітых мірных жыхароў...”*





Святочныя мерапрыемствы ішлі па ўсім Менску, па абласных і раённых гарадах. Сярод іх патрыятычная культурна-адукацыйная акцыя "Цягнік Памяці", якая стартавала 20 чэрвеня ў Берасці і фінішуе 6 ліпеня ў Маскве. Прыпынкі цягніка ўключаюць шэсць гарадоў Беларусі і восем гарадоў Расіі. У гэтым годзе акрамя школьнікаў з Беларусі і Расіі ў акцыі таксама ўдзельнічаюць навучэнцы з Арменіі і Кыргызстана.

У Беларусі ведаюць цану свабодзе: у Вялікай Айчыннай вайне загінуў кожны трэці жыхар рэспублікі.

Традыцыйна 3 ліпеня беларускі народ аддае даніну павагі гераізму і стойкасці салдат, самаахвярнай барацьбе падпольшчыкаў і партызан, бяспрыкладнаму працоўнаму подзвігу тых, хто ўзнімаў краіну з руін.

***БелТА.***





# Урачыстасці да Дня незалежнасці ў Лідзе

3 ліпеня Ліда, як і іншыя гарады Беларусі, адзначыла вялікае свята – 79-ю гадавіну з дня вызвалення нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Ля брацкай магілы воінаў-вызваліцеляў, што знаходзіцца каля Лідскага ЗАГС-а, адбыўся мітынг "Наша памяць мацней". Мітынг прайшоў на дзяржаўнай беларускай мове.



Са святочнымі словамі да яго ўдзельнікаў звярнуўся па-беларуску старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта Сяргей Ложачнік.



– Наша незалежнасць заснавана на подзвігу і справах пакалення пераможцаў. Тых, хто, ахвяруючы самым дарагім – сваім жыццём, прынёс на нашу зямлю доўгачаканую свабоду, – адзначыў кіраўнік рэгіёна. – Кожны год у гэты святы для нас дзень мы аддаём даніну вялікай павагі бяспрыкладнаму подзвігу беларускага народа. Вось і сёння мы знаходзімся каля брацкай магілы вайскоўцаў, якія, не шкадуючы сваіх жыццяў, абаранялі наш горад. Нізка схіляем галовы перад подзвігам нашых суайчыннікаў. Вечная памяць героям! Аддаём пашану і славу ўсім, хто ўнёс свой уклад у вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Нізкі паклон усім, хто ў смяротнай схватцы з ворагам адстаяў наша права на жыццё, адраджаў Беларусь з руін і попелу...

Затым слова было прадастаўлена начальніку Лідскага гарнізона, камандзіру 116-й Гвардзейскай Чырванасцяжнай Радамскай штурмавой авіяцыйнай базы гвардыі палкоўніку Аляксандру Крыўцу, старшыні Лідскай раённай арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў палкоўніку запасу Віктару Рыбачуку. Да прысутных звярнуліся епіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый, а таксама пробашч касцёла Узвіжання Святога Крыжа ксёндз Уладзімір Гуляй.



Ксёндз Уладзімір пачаў сваю палымяную патрыятычную прамову вершам Рыгора Барадуліна:

*Быць Беларусам -*
*Гэта значыць,*
*Свайго ні гуку не забыць,*
*Усё чужое перайначыць,*
*Каб Беларусі вечнай быць!*
*Быць Беларусам -*
*Гэта значыць,*
*Вясёла з сумнай долі кпіць,*
*Да Бога сцежку верай значыць,*
*Нагбом з карца надзеі піць.*
*Быць Беларусам -*
*Гэта значыць,*
*За родны край згараць на дым,*
*Па-беларуску чуць і бачыць*
*На гэтым свеце і на тым.*

Хвіліна маўчання. Удзельнікі мітынгу схілілі галовы ў памяць аб загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны, затым да брацкай магілы воінам-вызваліцелям былі ўскладзены кветкі.

* * *

Святочная праграма працягнулася каля сцен Лідскага замка. "Паклон табе, мая Беларусь", "Скарбы Лідскай зямлі", "Мне выпала шчасце тут нарадзіцца" - няпоўны пералік канцэртных цыклаў, якія ішлі адзін за адным.

У 22.55 лідзяне і госці горада прынялі ўдзел у рэспубліканскай акцыі "Заспяваем Гімн разам!". А кульмінацыяй свята сталі святочны феерверк і дыскатэка.

*https://lidanews.by/news/life/29928news.html.*





# Пілігрымка да Маці Божай Будслаўскай

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)

Самай вялікай па колькасці ўдзельнікаў была пілігрымка Менск-Будслаў, у якой ішло 258 чалавек, а самай працяглай - пілігрымка з Баранавічаў, якая працягвалася дзевяць дзён, а маршрут склаў 278 кіламетраў.

30 чэрвеня, перад Імшой для пілігрымаў, да ўдзельнікаў Будслаўскага фэсту звярнуўся Прэфект Дыкастэрыі па справах Усходніх Касцёлаў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджароці.

Папа Францішак прызначыў яго сваім Спецыяльным пасланнікам на ўрачыстасцях у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай з нагоды 25-годдзя з часу каранацыі цудадзейнага абраза Апякункі Беларусі.

Перад гэтым высокі ватыканскі іерарх пешкі ўвайшоў у Будслаў разам з групай пілігрымаў. Пры палявым алтары яго прывітаў Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч і папрасіў звярнуцца да прысутных са словам.




Арцыбіскуп Гуджароці пачаў сваю прамову парруску, што выклікала вялікі энтузіязм удзельнікаў. Але, заўважыўшы, што католікі размаўляюць па-беларуску, працягнуў па-італьянску з перакладам на беларускую мову.

"Даражэнькія, Папа зрабіў мне вельмі цудоўны падарунак. Ён паслаў мяне сюды яшчэ раз пасля таго, як я ўжо быў з вамі чатыры гады раней. Ён сказаў мне, што я павінен прадстаўляць яго такім чынам, як быццам ён сам прысутны тут сярод вас. Я павінен зазірнуць вам у вочы, паглядзець, як вы моліцеся, а потым вярнуцца і распавесці Папу, які мяне чакае і жадае гэта ведаць. Таму я павінен быць вельмі ўважлівым да ўсяго таго, што мы будзем разам з вамі перажываць.

А вы ведаеце, чаму Папу так цікава даведацца пра вас? Таму што вы - надзвычай прыгожы народ! І таму што Папа вас вельмі-вельмі моцна любіць! Ён ведае гісторыю вашага народа; усё, што вам давялося перажыць, усе вашыя цяжары, і хоча сказаць вам: "Я з вамі!" І яшчэ ён хоча, каб я разам з вамі ўкленчыў перад нашай Маці Божай Будслаўскай. Таму што тут вы маеце скарб, які ведаюць ва ўсім свеце, які любяць ва ўсім свеце, які ён хацеў бы ўбачыць уласнымі вачыма, як мы яго бачым, але не можа..."

За паўгадзіны да апоўначы 30 чэрвеня ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай адбылася традыцыйная працэсія са свечкамі і копіяй цудадзейнага абраза, каранаванага 25 гадоў таму па распараджэнні святога Яна Паўла ІІ.




Пад бой курантаў на вежы будслаўскай святыні апоўначы на палявым алтары распачалася ўрачыстая цэлебрацыя святой Імшы, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі.




Разам з ім Эўхарыстыю, на якой сабраліся тысячы вернікаў з розных мясцін Беларусі і з-за мяжы, а таксама духоўна далучыліся з дапамогай прамой трансляцыі на партале Catholic.by, цэлебравалі Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Алег Буткевіч, арцыбіскуп эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч, Генеральныя вікарыі Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупы Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі, найстарэйшы каталіцкі іерарх у нашай краіне біскуп Казімір Велікаселец з Пінскай дыяцэзіі, Апостальскі адміністратар для католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама больш за 80 святароў з усіх дыяцэзій Беларусі.

***Фота: Мікола Новікаў, Алена Бобр / Catholic.by.***





# Гонар Лідчыны - будучыня Беларусі





**400 балаў з 400 магчымых: рэкорд уступнай кампаніі**

Горад Ліда Гарадзенскай вобласці, здаецца, годны змяшчэння на рэспубліканскую Дошку пашаны за падрыхтоўку школьнікаў да паступлення ў ВНУ.

Летась многія СМІ пісалі пра Настассю Більдзь з Ліды, якая стала сапраўднай зоркай уступнай кампаніі. Дзяўчына з адзнакай скончыла сярэднюю школу і здала кожнае ЦТ на максімальна магчымы бал.

А сёлета зноў інфармацыя з Ліды. Яшчэ адна абітурыентка набрала 400 балаў з 400 магчымых. Пра поспех паведамілі ў Кіраванні адукацыі Лідскага райвыканкама.

**Паліна Дычак** скончыла сярэднюю школу №16 з залатым медалём. Сярэдні бал атэстата выпускніцы - 10,0. Паліна - уладальнік двух стобальных сертыфікатаў цэнтралізаваных іспытаў па рускай мове і хіміі. На цэнтралізаваным тэставанні па біялогіі таксама атрымала найвышэйшы бал.

Такім чынам, 400 балаў з 400 магчымых. Віншуем.

**Тры 100-бальныя сертыфікаты ў выпускніцы з Ліды**

І зноў у сярэдняй школе № 8 горада Ліды ў выпускніцы тры 100-бальныя сертыфікаты, паведамляе Кіраванне адукацыі Лідскага райвыканкама.

Толькі зацятасць, мэтанакіраванасць і велізарная працавітасць дапамаглі выпускніцы СШ № 8 **Нікановіч Вользе** дамагчыся высокіх вынікаў у выпускной і ўступнай кампаніі.

Атрымаўшы два 100-бальныя вынікі на цэнтралізаваных іспытах па рускай мове і ангельскай мове, Вольга яшчэ руплівей займалася падрыхтоўкай да цэнтралізаванага тэставання па грамадазнаўстве.

Штодзённыя заняткі, дапамога педагога Сурконт Таццяны Мар'янаўны - і доўгачаканы найвышэйшы вынік - 100 балаў!

Бал атэстата пакуль удакладніць не ўдалося, але, безумоўна, ён таксама вельмі высокі.

Віншуем выпускніцу і педагогаў з заслужаным поспехам!





*Навіны Германіі*

# Як стаць бакалаўрам у Германіі

## Дыпломы нямецкіх ВНУ, прызнаны ў большасці краін свету

Пакет паслуг Бакалаўр падыходзіць тым, хто ўжо скончыў мінімум 1 курс ВНУ ў сваёй краіне ці прайшоў падрыхтоўку ў каледжы да-ВНУ-скай падрыхтоўкі (Studienkolleg). Для паступлення на бакалаўрыят у Германіі неабходна валоданне нямецкай мовай (і наяўнасць сертыфіката пра здадзены моўны іспыт). Адсутнасць ці недастатковыя веды нямецкай мовы не з'яўляюцца перашкодай для атрымання ступені бакалаўра ў Германіі дзякуючы наяўным інтэнсіўным курсам нямецкай мовы.

Падрабязней:

**Мова навучання**

На большасці праграм навучанне на нямецкай мове. Існуюць таксама праграмы бакалаўрыята з навучаннем на ангельскай, а таксама двухмоўныя праграмы, але іх значна менш, чым нямецкамоўных. Для пошуку праграм на жаданай мове можна скарыстацца паслугай падбору ВНУ і праграм.

**Кірункі навучання**

У нямецкіх універсітэтах існуе велізарны выбар кірункаў і адмысловасцяў навучання, такіх як:

- Права, палітыка, міжнародныя адносіны;
- Бізнэс, мэнэджмент, эканоміка, маркетынг;
- Гасцінічны, турыстычны, падзейны мэнэджмент;
- Кампутарныя навукі, IT;
- Фінансы і бухулік;
- Журналістыка, PR і камунікацыі;
- Дызайн і выяўленчае мастацтва;
- І многія іншыя.

**Перавагі**

- Бясплатнае навучанне ў нямецкім універсітэце;
- Адсутнасць уступных іспытаў;
- Для маладых людзей - адтэрміноўка ад службы ў войску;
- Нізкія выдаткі на пражыванне ў Германіі падчас навучання;
- Кансультацыі і падтрымка нашымі супрацоўнікамі падчас навучання;
- Магчымасць падарожнічаць па краінах Еўрапейскага саюза на ўвесь час навучання, дзякуючы студэнцкай шэнгенскай візе;
- Магчымасць карыстацца паслугамі лепшых медыцынскіх установаў Германіі, дзякуючы студэнцкай медыцынскай страхоўцы;
- Шматлікія зніжкі і палёгкі на ўвесь час навучання (праязныя квіткі ў грамадскім транспарце, турпаездкі і экскурсіі, кіно, музеі і многае іншае);
- Для выпускнікоў: унікальная магчымасць працаўладкавання і пры жаданні - атрымання віду на жыхарствы ў Еўропе.



**Кошт навучання**

Навучанне ў ВНУ Германіі бясплатнае для ўсіх (трэба аплачваць толькі невялікі семестравы студэнцкі збор, прыкладна 200 еўра ў паўгода). Бясплатнае навучанне магчыма як на нямецкай, так і на ангельскай, для ахвочых усіх узростаў і ўсіх краін. Выключэннем з'яўляюцца толькі ВНУ зямлі Бадэн-Вюртэмберг, дзе вучоба для замежных студэнтаў з'яўляецца платнай (1500 еўра ў семестр). Часта вучоба ў прэстыжных дзяржаўных ВНУ Германіі абыходзіцца танней, чым на платных аддзяленнях расійскіх ВНУ. Кошт навучання, як і кошт жыцця студэнта ў Германіі залежыць ад горада, у якім вы плануеце вучыцца. Пасля залічэння ва ўніверсітэт вы атрымаеце статус студэнта, што значна паменшыць вашы выдаткі на пражыванне ў Германіі. Вам будуць належаць студэнцкія палёгкі: палёгкавы праезд на ўсіх тыпах транспарту, палёгкавае страхаванне, зніжкі ў тэатрах і кіно і г.д. Пры паступленні Вы таксама атрымаеце доўгатэрміновы від на жыхарства і дазвол на працу.

**Уступныя іспыты**

Уступныя іспыты, як правіла, адсутнічаюць. У залежнасці ад універсітэта і кірунку могуць быць выключэнні, напрыклад, на кірункі дызайн і выяўленчае мастацтва.





**Працягласць навучання**

Працягласць навучання на бакалаўрыяце ў Германіі складае ў сярэднім 6-7 семестраў у залежнасці ад універсітэта і абранай спецыяльнаасці.

**Неабходныя дакументы**

- Атэстат пра сярэднюю адукацыю;
- Акадэмічная даведка за прынамсі адзін курс, у якой паказаны прадметы, колькасць акадэмічных гадзін і адзнакі;
- Матывацыйны ліст на нямецкай ці ангельскай мове (у залежнасці ад абранага факультэта і спецыяльнасці);
- Кароткая біяграфія;
- У выпадку вучобы на нямецкай: сертыфікат пра здачу DSH ці TesDaf (таксама амаль ва ўсіх ВНУ прымаюць сертыфікаты Telc C1 Hochschule , GDS, KDS, DSD);
- У выпадку вучобы на ангельскай: сертыфікат пра здачу IELTS (часцей за ўсё бал ад 6,5) ці TOEFL (часцей за ўсё бал ад 80).

Увага! Спіс дакументаў прыблізны і залежыць ад абранай вамі ВНУ. Нашы кансультанты паінфармуюць вас пра астатнія дакументы, якія патрабуюцца ад вас.

Калі ў Вас няма скончанай вышэйшай адукацыі, то Вы не зможаце кардынальна памяняць кірунак навучання. Змена ж спецыялізацыі ў рамках прафесіі, безумоўна, магчымая. Калі ў Вас скончаная вышэйшая адукацыя, Вы мае права выбіраць любы факультэт навучання з прапанаваных універсітэтам. Пасля заканчэння бакалаўрыята вы можаце пачаць працаваць ці працягнуць навучанне ў магістратуры.

**Тэрміны падачы дакументаў**

Акадэмічны год складаецца з двух семестраў: зімовы і летні. Дакументы для паступлення таксама могуць падавацца 2 разы ў год на зімовы ці летні семестр. Апошні дзень падачы заявы на летні семестр: 15 студзеня (дакладны дэдлайн залежыць ад патрабаванняў ВНУ і праграмы). Апошні дзень падачы заявы на зімовы семестр: 15 ліпеня (дакладны дэдлайн залежыць ад патрабаванняў ВНУ і праграмы).

**Прызнанне дыплома**

Дзякуючы якасці нямецкай адукацыі, дыпломы нямецкіх ВНУ прызнаны ў большасці краін свету. Выпускнікі ВНУ Германіі маюць выдатныя кар'ерныя шанцы на міжнародным рынку працы, а студэнты з усяго свету едуць на вучобу ў Германію, паколькі атрыманыя імі дыпломы прызнаюцца на радзіме. Нашы спецыялісты пракансультуюць вас і пададуць больш поўную інфармацыю пра сістэму адукацыі ў Германіі і ўніверсітэтах, а таксама дапамогуць вам абраць універсітэт і вызначыцца са спецыяльнасцю.

***Study In.***

# Mark Formelle выпусціў прадукцыю з прынтамі Драздовіча, Хруцкага, Айвазоўскага

Mark Formelle і Нацыянальны мастацкі музей стварылі лімітаваную калекцыю адзення, натхнёную палотнамі вядомых беларускіх, расійскіх і еўрапейскіх мастакоў.





У калекцыі - футболкі і худзі з унікальнымі прынтамі, а ў дадатак да іх шорты, шоперы і шкарпэткі.

У аснову калекцыі ляглі выявы работ Драздовіча, Хруцкага, Філіповіча, Айвазоўскага, Пукірава, Венцэслаўса і Ліцвінавай, якія ўдалося творча пераасэнсаваць камандзе Mark Formelle.

Паведамляецца, што ў выбары работ для калекцыі ўдзельнічалі супрацоўнікі музея. На паўгода яны сталі часткай каманды дызайнераў і ілюстратараў і ўнеслі ўклад у стварэнне мадэляў. Здымкі прайшлі ў выставачных залах Нацыянальнага мастацкага музея.

***Паводле СМІ.***





# 100 гадоў даследчыку беларускай архітэктуры

28 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Чантурыі** (1923 - 1988), архітэктара, гісторыка архітэктуры, педагога, аўтара навуковых прац па гісторыі беларускай архітэктуры.

Архітэктурная спадчына Беларусі ўяўляе сабой сапраўдную скарбніцу, даследаваннем і вывучэннем якой займаліся многія вядомыя вучоныя. Да іх адносіцца і Уладзімір Чантурыя - прафесар, доктар архітэктуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Нарадзіўся Уладзімір Чантурыя ў Баку. У 1947 годзе скончыў архітэктурна-будаўнічы факультэт Азербайджанскага індустрыяльнага інстытута і быў накіраваны ў Менск. Працаваў у інстытуце "Белдзяржпраект". У 1948 годзе паступіў у аспірантуру пры Акадэміі навук БССР. Далейшае навучанне працягваў у Маскве ў Інстытуце горадабудаўніцтва Акадэміі архітэктуры СССР. У 1953 годзе ён абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Цэнтры гарадоў Беларусі", якая была прысвечана адной з актуальных праблем - фарміраванню цэнтральных ансамбляў гарадоў. З 1953 года Уладзімір Чантурыя выкладаў у Беларускім політэхнічным інстытуце і адначасова займаўся вывучэннем архітэктурнай спадчыны Беларусі. У 1965 годзе даследчык беларускай архітэктуры абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Даследаванне архітэктурнай спадчыны Беларусі". У 1968 годзе стаў прафесарам. У 1969 годзе ў БПІ заснаваў кафедру тэорыі і гісторыі архітэктуры, якую ўзначальваў да 1988 года.



У шматгадовай навуковай дзейнасці Уладзіміра Чантурыі вызначаюцца тры асноўныя этапы. Першы (1954-1964) быў звязаны з выяўленнем, абмерам і апісаннем найбольш вядомых помнікаў дойлідства ў Беларусі. У іх лік увайшлі творы манументальнай архітэктуры і горадабудаўнічыя ансамблі XVI-XVII стагоддзяў у Гомелі, Магілёве, Пінску, Нясвіжы, Свяцку, а таксама аб'екты грамадзянскага і культавага будаўніцтва. У выніку было падрыхтавана больш за 200 унікальных архітэктурных чарцяжоў, замалёвак, складзены навуковыя анатацыі. На другім этапе (1965-1970) праводзіліся фіксацыя і даследаванне малавядомых ці зусім невядомых вучоным аб'ектаў беларускай архітэктуры. Сярод іх - дом-цвердзь у Гайцюнішках, палацы ў вёсках Германавічы, Опса, Лявонпаль, сядзібныя дамы ў вёсках Поразава і Заполле, храмы ў вёсках Ішкалдзь, Міхалішкі і іншыя творы мураванай і драўлянай архітэктуры XV-XIX стагоддзяў. Трэці этап (1971-1983) звязаны з праблемай захавання горадабудаўнічай спадчыны пры рэканструкцыі населеных месцаў Беларусі. У гэты перыяд было абследавана каля 50 гарадоў Беларусі з найбольш старажытнымі забудовамі. Вызначаны гістарычныя межы іх цэнтраў, выяўлена і навукова абгрунтавана архітэктурная каштоўнасць. Атрыманыя матэрыялы і рэкамендацыі выкарыстоўваліся пры дэталёвай планіроўцы і забудове многіх гарадоў. Комплексныя праекты рэканструкцыі цэнтраў Гародні і Віцебска, выкананыя пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве Уладзіміра Чантурыя, атрымалі высокую ацэнку і былі адзначаны ўзнагародамі. Вынікі даследаванняў, праведзеныя Уладзімірам Чантурыям, знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх публікацыях. Яго артыкулы друкаваліся ў энцыклапедыях, беларускіх, замежных часопісах і навуковых зборніках. Вучоны з'яўляецца аўтарам спецыяльных і папулярных выданняў па гісторыі беларускай архітэктуры і горадабудаўніцтва. Сярод іх - "Архитектура Белоруссии конца XVIII - начала XIX века" (1962), "История архитектуры Белоруссии (дооктябрьский период)" (1969, 1977; Дзяржаўная прэмія БССР, 1980), "Архитектурные памятники Белоруссии" (1982), "Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии" (1983), "Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии" (1986) і іншых. Кнігі Уладзіміра Чантурыі і сёння знаёмяць чытача з гісторыяй палацавых ансамбляў, храмаў абароннага тыпу, класічнай архітэктурай касцёлаў і цэркваў; даюць магчымасць найбольш поўна вывучыць матэрыяльнае асяроддзе, у якім жылі нашы продкі, іх культуру і мастацтва. У сваіх працах аўтар даследаваў працяглы і складаны працэс развіцця дойлідства на тэрыторыі Беларусі, аналізаваў унікальныя рэліквіі Полацка, Гародні, Віцебска, Менска і іншых гарадоў.




***Вікіпедыя.***

# Пра вяртанне ў 1938 г. парэшткаў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага з Ленінграда[1]

**Ціхае вяртанне парэшткаў караля Станіслава Аўгуста ў родны край.**
***Варшава***

*У выніку прыязнай дамовы з савецкім урадам у справе рэпатрыяцыі парэшткаў караля Станіслава Аўгуста, некалькі дзён таму яны былі перавезены з Ленінграда ў наш край. Труна з парэшткамі караля будзе спачываць у тым месцы, дзе ён нарадзіўся, у гістарычным касцёле ў Воўчыне (Воўчын, мястэчка на рацэ Пульва ў Палескім ваяводстве Берасцейскага павета).*

*Slowo. 1938. № 206.*

Нечакана і ціха з Ленінграда ў Польшчу прывезлі парэшткі апошняга караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Сенсацыяй ёсць факт, што парэшткі караля прывезлі нібыта 2 тыдні таму, але пра гэта да сёння нічога не было вядома. Здзіўленне стала яшчэ большым, калі некалькі тыдняў таму разышліся весткі пра намер прывезці труну з каралеўскімі парэшткамі, а пасля з'явілася аспрэчванне гэтай інфармацыі, было заяўлена, што парэшткі караля застануцца ў касцёле св. Кацярыны ў Ленінградзе. Аднак хутка пасля гэтай заявы труна была перададзена Польшчы.

Улады Стаўпецкага павета не ведалі, не рыхталіся і не мелі ніякага загаду. Таму былі вымушаны па тэлефоне звярнуцца да кіраўніцтва Наваградскага ваяводства з пытаннем, што рабіць з транспартам з Ленінграда. Наваградак у сваю чаргу запытаў Варшаву, і цэнтральныя ўлады загадалі перавезці парэшткі караля ў Берасце, адкуль яны мелі быць перададзены ў сямейны маёнтак Панятоўскіх Воўчын, што за 20 км ад Берасця. Таксама і без усялякіх цырымоній адбудзецца і пахаванне труны караля ў крыпце нядаўна адноўленага касцёла ў Воўчыне.

А зараз раскажам, як адбылося вяртанне труны.

На станцыю Стоўбцы з Саветаў прыйшоў запламбаваны таварны вагон са скрыняй, у якой месцілася дубовая і цынкавая труна з парэшткамі Станіслава Аўгуста. Савецкія ўлады даставілі труну з каралеўскімі парэшткамі на памежную станцыю Стоўбцы і звярнуліся да мясцовых польскіх уладаў, каб тыя прынялі труну. Савецкія чыгуначнікі перадалі вагон польскім чыгуначнікам з кароткім суправаджальным лістом, у якім пра груз было толькі пазначана, што гэта "парэшткі".

Парэшткі караля ў напаўразбураным і абрабаваным касцёле св. Кацярыны знаходзіліся ў страшэннай бядзе. Некалі забальзамаваны труп цалкам спарахнеў, бо рукі грабежнікаў у дні рэвалюцыі адчынялі вечка труны ў пошуках каштоўнасцяў. Тады з падгалоўя труны забралі срэбную, масіўную і добра пазалочаную карону, але неўзабаве зладзеяў знайшла і "абясшкодзіла" "чрезвычайка", пасля чаго карону зноў паклалі ў разбітую труну.

Толькі пазней некалькі чалавек, якім удалося патрапіць у крыпту пад касцёлам св. Кацярыны, трошкі ўпарадкавалі труну. Яны казалі, што цела і косці цалкам спарахнелі, а найлепей захаваліся толькі каралеўскія кармазынаваыя шаты, а таксама кутая са срэбра і пазалочаная карона каля галавы. Каля труны стаялі дзве невялікія бляшанкі - у адной было сэрца, а ў другой вантробы караля, выдаленыя падчас бальзамавання.

У сутарэннях таго ж касцёла знаходзілася малая труна з парэшткамі караля Станіслава Ляшчынскага, якая тады ж была перавезеная ў Польшчу. Яе патаемна забраў і вывез былы кусташ Пецярбургскага Эрмітажа с. п. Мікалай Пятроўскі, але вывезці вялікую труну з парэшткамі Станіслава Аўгуста ў той час было немагчыма.

*Slowo. 1938. № 208.*

***Юзаф Мацкевіч***

## Чыноўнік забараняе маліцца за караля, ці Таямніца 14-й ліпеньскай ночы ў Воўчыне

**"Справа караля"**

На гэты раз я фатальна спазніўся. Усе газеты ўжо шырока напісалі пра месца, дзе пахавана цела апошняга караля Станіслава Аўгуста. Гэтым скарысталіся нешматлікія таксісты ў Берасці, бо сюды ехалі

[1] Прэса пра ніжэйапісаныя падзеі. *Л.Л.*





карэспандэнты з варшаўскай, познаньскай і кракаўскай прэсы. Колькі іх было ў суботу, нядзелю! … А я прыехаў толькі ў панядзелак. Ксёндз Чышэвіч кажа, што я ўжо пяты. "Што ж зробіш", - кажу я і хутка выціраю пот.

І ўсё ж я бяру таксоўку і еду. У твар дзьме пякучы вецер. Такі не асвяжае і не прастуджвае. Ён толькі абдае цяплом. У цеплыні ледзь хістаюцца каласы ячменю і аўсу. Ляжаць скошаныя снапы жыта. Застыгла трава. Жанчыны прыкладаюць да вачэй руку з сярпом. Мужчыны выпростваюць шыі і глядзяць на аўтамабіль. Коні лянуюцца яго баяцца.

- Спадар, пэўна па справе караля? - перарывае манатоннасць летняга поўдня голас шафёра. Прыемная гэта "таямніца", усе пра яе ведаюць.

**Праз 206 гадоў**

Спякотны поўдзень. Калі матор на хвіліну перастае гусці, гудуць казуркі. Лета ў самым разгары, усё, як на курорце, заліта сонцам.

- Лета, ляціць, лячу, гады … Колькі ж гадоў мінула з дня нараджэння апошняга караля? … Дзвесце шэсць. Навокал пасевы пшаніцы. Ці шмат што змянілася за гэты час? Аўтамабіль, вядома ж, але што яшчэ? Можа толькі тут было больш лесу.

За Высокім Літоўскім шырокі тракт з глыбокімі каляінамі ў пяску. Ля сажалкі мыюць агуркі, а ў млыне мелюць муку, і сяляне ляніва сядзяць, закалыханыя грукатам млына.

Старая каплічка на раздарожжы памятае нябожчыка-караля ... Воўчын.

У гэты час вёска цалкам зялёная. Бялеюць толькі часткі хатак, абмытыя дажджом ужо пасля загаду сп. прэм'ера. У колеры толькі кветкі мальваў, півонь і сланечнікі перад нешматлікімі дамамі, якія стаяць купамі. Над дарогай на Воўчын навісаюць вялізныя дрэвы, як раней яны навісалі над карэтамі з гербамі. Я раптоўна выязджаю на пераважна зарослы травой малы пляцык, і ў вочы кідаецца чароўны від:

**Барока сярод каштанаў**

Касцёл. Не буду паўтараць, хто яго будаваў, што гэта аналаг рымскай Санта-Марыі-Маджорэ[2], што барока, што … і г. д. пра гэта ўжо пісалі амаль што ўсе выданні, запазычыўшы інфармацыю з "Геаграфічнага слоўніка" [3], як, напрыклад, учора "Варшаўскі Кур'ер". Касцёл, аднак, пакідае цудоўнае і ў той жа час дваістае ўражанне. Не ведаю, што больш кідаецца ў вочы ў гэтай вытанчанай барочнай ратондзе: яе найпрыгажэйшая архітэктура ці яе сучасная жахлівая занядбанасць.

Вакол касцёла высокі мур, а дакладней яго руіны. Брамы, з якіх дзве перароблены і адна дабудавана рускімі, якія ў 1866 г. забралі касцёл пад царкву. У гэтай апошняй ляжыць смецце, паламаныя жэрдкі, усялякае лам'ё, тынк, друз. Цэгла выпадае з мура на траву, якая яе сарамліва хавае. Касцёл атачаюць прыгожыя каштаны. Яны настолькі старыя, што разламалі мур яшчэ ў 1821 г. Але іх лісце дзіўным чынам гарманіруе з касцельнымі сценамі і барочнымі карнізамі, а сонца ходзіць вакол ратонды і адкідвае тонкія цені гэтага лісця. І калі пачынае хавацца, асвятляе толькі сярэднюю вежачку з нерухомымі тарчамі гадзіннікаў і лікамі чатырох евангелістаў.

Сапраўды не ведаю, ці выпадае лічыць гэты касцёл проста творам мастацтва ці сапраўдным мастацкім шэдэўрам.

**Сучасная трагедыя касцёла і караля**

Аднак, пакуль гэта сведчыць толькі пра набалелае і красамоўна пра наша да яго стаўленне.

Вось так, спадарства! У нашай вёсцы, дзе па загадзе прэм'ера эстэтызаваць Польшчу фарбуюць вапнай круглае бярвенне хат, дзе вапнай мажуць жэрдкі загарадзяў і нішчаць жывыя платы, дзе ад "эстэтычнага" выгляду згінаецца нават лісце лапухоў, і кроплямі вапны плачуць дзікія ружы пры плоце - стаіць касцёл бацькі караля, запэцканы плямамі ад дажджу, з патрапанымі карнізамі і пабітай тынкоўкай. Свеціць голымі цаглінамі, паламанымі вугламі. Яго ўсходняя сцяна пасля бітвы паміж войскамі дзяржаў, якія ў свой час падзялілі наш край, пабітая кулямі карабінаў і кулямётаў, і кулі ў ёй сядзяць, як брыдкае рабацінне. Касцёл амаль што ў руінах … і адначасова пад абаронай дзяржаўнага кансерватара.

Нехта з гэтых чыноўнікаў настолькі не меў розуму, што прапанаваў высечы каштаны, якія праламалі мур яшчэ ў 1821 г. Але цёмныя, брудныя, неахайныя тутэйшыя людзі, якія не ўжываюць мыла, не дапусцілі гэтага варварства.

А зараз апошняга з нашых манархаў, апошняга караля і вялікага князя, караля-эстэта, караля-мецэната, караля-мастака, патаемна, пад аховай паліцыі, уначы прывезлі ў гэтую вёску, у гэтыя руіны і дзяржаўны кансерватар забараніў ксяндзу публічна маліцца

[2] Здаецца, у гэтым Юзаф Мацкевіч памыляецца, бо Санта-Марыя-Маджорэ (італ.: Basilica di S.Maria Maggiore) - адна з чатырох галоўных базілік Рыма, мае зусім іншы выгляд. - *Л. Л.*

[3] Wolczyn // Slownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich. Tom VIII. Warszawa, 1887. S. 865-867. - *Л. Л.*




да Пана Бога за яго душу.

- Што гэта?! Чаму гэта?! - Пытаюцца ў мяне чытачы, якія тут пабывалі, але я не магу адказаць на пытанне, "чаму так было" і таму хаця б паспрабую расказаць, "як гэта было".

**Цішыня і нэндза атачаюць парэшткі**

Спачатку я пайшоў па слядах журналістаў, але гэта нічога не дало, бо я сустрэў цішыню, якой я тут пасля нядаўняга розгаласу не надта і чакаў. У гэты гарачы поўдзень спалі нават дрэвы. Я ўвайшоў у касцельны двор па сакавітай траве праз руіны старой брамы. Касцёл стаяў таямнічы і зачынены. У каштанах спявала івалга, а на траве ляжаў рабочы, які правай рукой нацягваў, як ветразь, грубую кашулю на грудзях, а левай шукаў у ёй вошы. З-за прыроджанай ляноты ён не хацеў устаць, каб лацвей лавіць вошы ці пагаварыць са мной. Я паціснуў плячыма - за дзесяць крокаў ад яго, за сцяной касцёла, ляжыць кароль - і пайшоў далей. Побач знаходзіліся дзве магілы з каменным надмагіллем:

***"Священник Киприян Иванович Павлович, умерший 4 августа 1886 г. и жена его Фёкла Васильевна."***

Я зірнуў на разбураныя вайной сцены і праз галоўны ўваход, яшчэ ў цяні каштанаў, выйшаў за агароджу шукаць пробашча.

**Праз дзірку ад ключа**

Са мной адбылося тое самае, што і з іншымі: знаёмства з сімпатычным пробашчам, які разводзіць рукамі і хаваецца за таямніцай. Вырваць з яго словы пра гэтую цікавую справу немагчыма. Ён паказаў мне архіў і шмат дакументаў часоў Паўла І. Каралеўская метрыка. Ён адчыніў касцёл і паказаў яго знутры. Няпраўда, аднак, тое, што пісаў "Варшаўскі кур'ер", быццам пробашч мае ключы ад капліцы, дзе знаходзяцца каралеўскія парэшткі. Гэты ключ (адзіны) знаходзіцца ў будынку ваяводства ў Берасці.

Зазірнуў я і ў цяпер знакамітую замочную шчыліну.

Нарэшце, я паспрабаваў спытаць ў шаноўнага ксяндза, што ён сам думае аб прычынах гэтай незвычайнай таямніцы? Спачатку ён проста развёў рукамі …

- Хіба … насамрэч, ніхто не ведае, чаму. Можа, нашы ўлады баяцца наплыву цікаўных, якім не хочуць паказваць сумны стан касцёла, руіны, дзе ляжыць кароль … Перш, чым іх адрамантуюць …

Я пачаў шукаць. Шукаць у Берасці ў самых розных сферах: і духоўных, і свецкіх. Часам чалавека можна сустрэць, калі зойдзеш на вакзал або на пошту … І калі параўнаць розныя пагалоскі і размовы з тым, што я чуў на месцы, у Воўчыне, - варушацца валасы на галаве.

Якая сучасная камедыя del arte (камедыя масак - *Л. Л.*) над парэшткамі караля - аматара мастацтва!

**Таварны вагон у Берасці**

"Таямніца" з'явілася раней - 9 ліпеня на вакзал у Берэсці прыбыў звычайны таварны вагон. Быў запламбаваны. Аднак, адкуль стала вядома, што ў ім? Што менавіта труна з парэшткамі караля Станіслава? Справа ў тым, што ўжо тады шапталіся пра пячатку "польскага консула ў Ленінградзе" на труне …

Вагон на рэйках стаіць 4 дні. 10-га ў Воўчыне з'яўляецца незвычайная каманда: кіраўнік ваяводскага будаўнічага аддзела ў Берасці інжынер Папескі з рабочымі. Ва ўсіх іх таямнічыя міны.

**Жалезабетон і жалезныя краты**

На ўваходзе ў воўчынскі касцёл кідаюцца ў вочы дзве капліцы (хутчэй, рызаліты - *Л. Л.*) - справа і злева. Яны ідэнтычныя - тры метры ў шырыню і даўжыню. З кожнай з іх наверх вядуць вітыя лесвіцы, да так званай ложы, у якіх калісьці слухалі набажэнства дастойнікі. Левая крыпта называлася каралеўскай, і ложа над ёй таксама каралеўская. У яе спяшаецца сп. інжынер. Замураваць дзверы наверх, у ложу! Але чым … жалезабетонам! Назаўсёды, каб ніхто ў жыцці і ніякая сіла не магла туды ўвайсці.

Потым павярхоўны рамонт і ўнутранае абнаўленне. Нашто ўзмацняць скляпенне крыпты пад капліцай? Менавіта ў сярэдзіне падлогі маецца шырокі праём, які вядзе ў падземную крыпту, яго па-хуткаму прыкрылі дошкамі. Ніхто не ведае, навошта гэта робіцца. Нібыта, ніхто.

Потым прывозяць жалезныя краты. Моцных дзвярных замкоў недастаткова. Краты патрэбны, каб ізаляваць ад нефа касцёла. Потым дзверы зачыняюцца і …

Праца вядзецца ліхаманкава, і праз 4 дні ўсё гатова.

**Труна важыць 600 кілаграмаў**

Вечар 14 ліпеня, перад заходам сонца. На Берэсцейскі вакзал прыязджае грузавік Дырэкцыі пошты. Быў яшчэ і лімузін. Шэсць ахоўнікаў Дырэкцыі пошты ўвайшлі ў вагон. Там стаіць вялікая дубовая скрыня ў форме труны. Абвязана шнурамі і мае 2 пячаткі. У гэтай вонкавай труне знаходзяцца яшчэ дзве труны, адна з іх металічная. Агульная вага 600 кг. Акрамя вялікай труны, ёсць малая, але таксама дубовая

скрыня круглай формы. Невядома, ці гэта урна з сэрцам, ці з вантробамі, ці ў яе адразу ўпакаваны дзве урны, бо ў касцёле св. Кацярыны былі дзве.

**Першым - паштовы грузавік**

Пунктуальна, а 9-й гадзіне вечара 14 ліпеня, гэты дзіўны кандукт выпраўляецца ў дарогу. Папераддзе едзе паштовы грузавік, а за ім ваяводскі лімузін.

Надыходзіць ноч.

За паўгадзіны да поўначы аўтамабілі, крадучыся, пад'ехалі да касцёла ў Воўчыне. Але не з фронту. Яны заязджаюць убок паміж сцяной касцёла і агароджай плябаніі, некалі палацавым паркам. Пад покрывам каштанаў і клёнаў, якія былі пасаджаны рукамі французскага садоўніка, пад полагам лісця - зусім цёмна і ціха.

**Крымінальная дапамога**

Прысутнічаюць ксёндз-пробашч, войт, кансерватар з Любліна, інжынер Папескі і featureзнае спадарства, пра якое немагчыма даведацца з-за высокага рангу. Аднак, калі б мне сказалі, што ваявода меў чорную маску на твары, а дзяржаўны кансерватар апрануў чорнае даміно, а ў руцэ трымаў шпагу, я б зусім не здзівіўся. Цырымонія перанясення парэшткаў апошняга караля часткова была сярэдневечнай таямніцай, а часткова горкім гратэскам. А на вежы вухалі совы і выклікалі дрыжыкі ў прысутных.

Ніякай паліцыі! Каб не звярнуць увагу. Ад плошчы перад галоўным уваходам у касцёл стаялі толькі два "ціхары" з берасцейскай крымінальнай паліцыі.

Ганаровая варта каралеўскіх парэшткаў!

**Труну перацягнулі цераз мур**

Цяпер наступіла чарга цягнуць труну. 600 кілаграмаў. Кожны з 6 паштовых ахоўнікаў меў па 100 на плечы. Аказваецца, труна з-за сваіх памераў не можа ўвайсці праз вузкую браму. Тады яе цягнуць цераз верх мура. Адзін са спадарства падскочыў на дапамогу ахоўнікам.

Калі труну ўнеслі ў капліцу, аказалася, што першапачатковы план пакінуць яе ў падземнай крыпце не можа быць здзейснены. Праз дзірку ў падлозе яна не праходзіць. Таму ўніз апусцілі толькі урну з сэрцам, а труна засталася наверсе - у тым жа выглядзе, у якім была дагэтага: абвязаная шнурамі і апячатаная. Потым замкнулі краты, потым дзверы і забралі ключ.

Узыходзіць сонца. Яны яшчэ ў касцёле. Толькі каля 5-й раніцы схавалі труну Станіслава Аўгуста, і абодва аўтамабілі паехалі. На рынкавай плошчы Высокага Літоўскага паліцыянт выцягваецца перад лімузінам, як перад самім каралём.

Канец.

**Байка і рэчаіснасць**

Менш за ўсіх пра падзеі ведаюць ваколічныя сяляне, яны спрацаваныя, і ў галаве ў іх толькі грошы. Ах, золата. Быць багатым, як кароль! Байка. Яны толькі шэпчуцца паміж сабой, што ў Воўчынскі касцёл прывезлі і схавалі залатую булаву і вялікую карону з чыстага золата. Таму жалезабетон, таму ўначы, таму і таямніца - каб ніхто не скраў.

Але пра караля ўжо ведае ўся Рэч Паспалітая. Але я ўсё ж не ўпэўнены - ці так адбываліся падзеі, бо як я ўжо напісаў вышэй, кс.-пробашч Чышэвіч не пажадаў расказаць што-небудзь, але вось гэта я пачуў ад пэўнага чалавека, якому ён неабачліва даверыўся, што была гэткая размова:

- Ці магу я адслужыць набажэнства за душу манарха Станіслава Аўгуста? - спытаў ксёндз.

- Ні ў якім разе! - адказаў чыноўнік.

Што гэта ўсё можа значыць, пытаюцца людзі адзін у аднаго? І ніхто не ведае прычыны несамавітай таямніцы. Магчыма, нехта, хто быў яе першапачатковым ініцыятарам, нарэшце загаворыць? Бо нейкая нясмачная і незразумелая гэта гісторыя.

*J. M. [Jozef Mackiewicz]Urzadnik zabrania modlow za Krola, czyli tajemnica 14-tej nocy lipcowej w Wolczynie // Slowo. 1938. № 211.*

## Столь можа абрынуцца на саркафаг!
## *Воўчын*

На жаль, сёння да любой справы трэба падыходзіць з разуменнем, што нам пагражае вайна. І мы павінны ўвесь час нагадваць сабе, што ўсё, што мае нейкае дачыненне да нашай боегатоўнасці, павінна рабіцца без усялякіх абмеркаванняў. […]

Аднак, на жаль, пэўныя людзі, адказныя за ўнутраныя дробязныя праблемы, спрабуюць выкарыстаць напружанне сучаснага моманту, каб схавацца ад усякай крытыкі і кантролю з боку грамадства. […] Што ж, мы хацелі б папярэдзіць гэтых спадароў, што кожны дзень і пры любой сітуацыі ў свеце мы сутыкаемся з пытаннямі першачарговага і другаснага значэння, і таму газета будзе пісаць пра памылкі.

І ў ніжэйпрыведзеным артыкуле ёсць нешта не палітычнае і не стратэгічнае, бо размова пойдзе пра хібы ў культуры, якія павінны хваляваць кожнага грамадзяніна, размова пойдзе пра парэшткі апошняга





караля нашай Найяснейшай Рэчы Паспалітай. […]

Памятаем, што вакол гэтага дзіўнага пахавання і выбару месца для вечнага спачыну каралеўскага праху, адбывалася сапраўдная бура і разам з ёй гарачая, але і прафесійная палеміка. Газета "Ведамасці Літэрацкія" на сваіх старонках друкавала вельмі цікавую анкету-апытанне, у якой узяло ўдзел шмат людзей з літаратурных і мастацкіх колаў. Апытанне цягнулася доўгі час. Калі-нікалі, яно запаўняла літаральна ўсе газетныя калонкі. Людзі пісалі, пісалі, пісалі … пакуль раптам не спыніліся. Наколькі я ведаю, гэтая ж газета, якая паставіла фундаментальнае пытанне: "Дзе маюць быць пахаваны парэшткі караля", не зрабіла падсумавання вынікаў анкеты-апытання. Эксперты выказваліся на карысць Варшавы, значна большая частка на карысць Вавеля ў Кракаве і менш за ўсё на карысць Воўчына.

Потым усё сціхла, і парэшткі Станіслава Аўгуста паля вяртання засталіся ў Воўчыне. Думкі так званых кампетэнтных у гэтай тэме асобаў не ўдастоіліся, як гэта часта бывае, ніякай увагі. Грамадская думка была папросту праігнаравана.

Але зараз не тое нас хвалюе, не тое, што мы ў "Слове" галасавалі "за Вавель", за іншае месца вечнага спачыну нашага апошняга караля. Мы прапускаем гэтую эстэтычна-культурна-гістарычную спрэчку. Кароль павінен застацца ў Воўчыне? Хай будзе ў Воўчыне, але хай толькі не будзе, як ёсць зараз: наш апошні кароль, добры ці дрэнны, рэліквія ці толькі помнік гісторыі, патаемна прывезены і патаемна пахаваны, на працягу года спачывае на сметніку, у які ператварыўся адзін з самых прыгожых помнікаў касцельнай архітэктуры, ён пагражае нам абрушэннем і знішчэннем таго, што калісьці было нашым: Rex і Magnus Dux.

Думаю, што ў гэтым выяўляюцца ўжо адносіны не да асобы караля, але проста да ўласнай гісторыі. […]

Год таму, калі я быў у Воўчыне, я напісаў: [далей ідзе вялікі кавалак тэксту з вышэй перакладзенага артыкула з апісаннем стану касцёла - *Л. Л.*]

Мінуў год. Мы былі супраць таго, каб парэшткі караля заставаліся ў Воўчыне. Мы лічылі Вавель больш адпаведным месцам. Але нават і падумаць не маглі пра тое, што тыя, хто вырашыў пакінуць парэшткі ў Воўчыне, не могуць нават паклапаціцца пра звычайную кансервацыю! Для нашчадкаў.

Мінуў год. Касцёл у Воўчыне знаходзіцца ў небяспечным стане. Тынкоўка звонку гнілая, арнаментыка калон запэцканая зацёкамі і адвальваецца. Цэгла над падмуркамі пашкоджана да такой ступені, што, калі не паклапаціцца пра знешнюю тынкоўку, касцёл можа абваліцца.

Дах воўчынскага касцёла пакрыты цынкавай бляхай, непрыдатнай да гэтай мэты. Яна занадта тонкая і трэснула ў выніку атмасфернага ўздзеяння - калі не будзе неадкладнай рэстаўрацыі, дык тынкоўка столі, пакладзеная ў 1937 г., зруйнуецца.

Аднак найбольш небяспечнай з'яўляецца самая прыгожая частка касцёла - купал. Ён не адрамантаваны, ужо падвергнуўся частковаму разбурэнню і занадта слабы. Купал храма крыху нахіліўся ўбок, у паўднёва-заходні бок. Усходняя ад Вялікага алтара сцяна мае расколіну, якую добра відаць вышэй і ніжэй ад круглага акна.

Закрыццё касцёла было б вялікай крыўдай для тутэйшай каталіцкай парафіі. Абрушэнне касцёла было б непапраўнай шкодай для ўсяго культурнага свету.

Але людзі, якія пішуць і штодзень выказваюць сваю любоў да культуры, ужо забыліся пра Воўчын. І толькі бедная парафія, якая налічвае 450 душ, падала заяву ў Міністэрства веравызнанняў і асветы. Заява засталася без адказу. Таму была пададзеная заява палескаму ваяводзе. Адказу няма. Ваяводскаму кансерватару. Адказу няма.

Труна стаіць у крыпце, яе было бачна праз замочную шчыліну. Зараз павук сплёў там сваё павуцінне. Ключ знаходзіцца ў блізкай, але невядомай нам кішэні.

Нядаўна кс.-пробашч Чышэўскі асабіста ездзіў да начальніка ваяводскага будаўнічага аддзела інж. Сакалоўскага. Атрымаў лаканічны адказ: "Няма грошай".

Вядома, што грошы сёння патрэбныя на рэчы ў 100 разоў больш важныя - на абарону. Але, папраўдзе, і АЗОН-у на каўбаскі для партыі.

Але тым не менш, мы павінны іх знайсці, знайсці хоць колькі-небудзь. Ні ў якім разе не для пабудовы ў дадзены момант каралеўскага маўзалея. Нават не для рэканструкцыі прыгожага касцёла. А толькі для захавання яго для нашчадкаў разам з саркафагам і парэшткамі апошняга Караля і Вялікага Князя.

*J. M. [Jozef Mackiewicz] A strop runac moze na sarkofag! // Slowo. 1939. № 182.*

Пра лёс парэшткаў караля Станіслава Аўгуста праз 50 гадоў пасля падзей, апісаных у артыкулах Юзафа Мацкевіча, можна даведацца ў наступным грунтоўным артыкуле:

Краўцэвіч Алесь. Апошні прытулак апошняга караля Рэчы Паспалітай // Спадчына. 1994. № 6. С. 88-91.

***Пераклад і каментаванне***
***Леаніда Лаўрэша.***

